## Незалежнасць, а клясовае змаганьне.

Як перадаюць прыежджаючые у Вільню с Польшчы падарожнікі, адбудаваньне дзержавы польскай значна завастрыло клясовую барадзьбу.

У цяперэшнім генэрал-губэрнатарстве Варшаўскім знаходзіцца абшар польскіх зямель адваеваных нямецка-аўстрыяцкім аружжам ад Расеі. Землі гэны—спрадвечные землі польскіе, заселеные польскім народам, часьцю жыдамі, немцамі і інш. Але пераважае элемэнт польскі, як па местох так і па вёсках Значэ, можна сказаць, што нацыянальна жыхары абшару польскаго маюць адны і тые-ж самые нацыянальные інтэрэсы і жаданьня. З вызваленьня і унезалежненьня Польшчы зароўна цешыцца работнік і селянін, памешчык і фабрыкант. Але разам з гэтым кожная клясса народу стараецца абмежыць свае інтэрэсы, забаспечыць свае правы.

Між іншым цікавы і характэрны адношэньня селянства да паноў. Цямнейшые селяне шчыра вераць, што абы была толькі змога то паны немінуча у маладой дзержаве завядуць паншчыну і прыгон. Цямнейшые мешчанскіе і панскіе элемэнты ізноўжэ чэкаюць, што маладая Польшча навучыць разбэшчэнае „хамство“ слухмянасьці і пакоры перад панамі.

Бывае што гэткая клясовая варажнеча і нявера прабіваецца у вулічных сцэнах даючы не мало комічнаго матэр'ялу слухачом.

Побоч пэсымістоў, ёсць і оптымісты у пролетар'яцкай массе. Тые кажуць, што пролетар'ят павінен захапіць урад у свае рукі і што гэто станецца пры помачы нечаго, нейкаго, некалі, — адным словам... блогаслаўлены веруючые.

Гэтые ўспышкі спрадвечнай клясовай барадзьбы рэч саўсім зразумелая і апраўдываюцца вялікім зацікаўленьнем шырокіх масс творча-дзержаўнай работай якая цяпер там робіцца. Паказываюць яны такжэ, што пролетар'ят і селянство у Польшчы разумее свае соцыяльно-клясовые інтэрэсы і стараюцца бараніць іх.

Адначасна гэтые-ж самые факты гаворацъ вельмі на некарысць умысловаго развіцьця нашаго селянства і нашаго пролетар'яту, большасць с паміж каторых няўмее адрожніць веры ад нацыі і сваіх інтэрэсоў худацкіх ад інтэрэсоў панскіх.

*Язэп Гулевіч.*

## „На вёсцы“

Пад гэткім загалоўкам п. Франціш Олехновіч, кіраўнік і рэжысэр беларускай драматычнай дружыны у Вільні, напісаў сцэнічную ідыльлю, якую у гэту нядзелю ставіць на сцэне Беларускаго Клюбу.

Форма цэнічных ідыль, вельмі модная у век расцьвету романтызму, у апошніе часы уступіла мейсцо іншым сцэнічным формам, на шкоду самога тэатральнаго мастацтва. П. Ф. Олехновіч зрабіў спробу уваскрэсіць гэту сцэнічную форму, а прынамсі прысвоіць яе беларускай сцэне, на каторай мы бачылі дагэтуль адну толькі падобнаго характару сцэну: Марцінкевічоўскую „Селянку“, пісаную у 1840 гадах і праз гэто саўсім ужо устарэлую.

„На вёсцы“ п. Ф. Олехновіча, апрыч вытрыманай у форме ідыльлі мае ешчэ адну добрую старану, што тыпы выхвачэны с сучаснаго жыцьця.

Сёлета на беларускую сцэну,—пасьля на „Антокалі“—п. Олехновіч дае другую прэм'еру.

Абсада гэтай прэм'еры, як нас паведамляюць, зладжылася вельмі шчасьліва, с членоў пастаяннай беларускай дружыны, так што у нядзелю (можэмо сябе наперад цешыць) убачымо беларускую ідыльлю у мастацкім выконаньні.

*Бывалы.*

## РАЗЛУКА.

Хоць доля разлучыла нас,  
У сэрцы я любоў хаваю;  
Былога мне ня верне час,  
Цябе ніколі не спаткаю!

Прапало шчасьце, як той пар,  
Як ў восень цвет, што цвіў у маю,  
У сэрцы поўна цёмных хмар,  
Цябе ніколі не спаткаю!

Твой облік часам мне  
Мігне анёлкам светлым з раю.  
Ізноў-жэ цёмна, як ў труне;  
Цябе ніколі не спаткаю!

Надзеі ў сэрцы ніякой  
Пакуль душу у целе маю...  
Памру,—тады знайду спакой  
І мо' тады цябе спаткаю!

18—2—17 г. *Янка Быліна.*  
**Меднікі.**

## У Вільні і ваколіцах.

× **У Беларускім Клюбе** у гэту нядзелю будзе адыйграна першы раз „На Вёсцы“ Ф. Олехновіча, пачатак а 7 гадзіне вечэрам, госьці плацяць за права ўходу 50 ф.

× **На даход Сувязі Артыстоў.** У суботу 17 марца адбудзецца вялікі сымфонічны канцэрт, пад дырэкцией А Вылежынскаго. У праграме будзе: Патэтычная сымфонія — Чайкоўскаго, Суіта Бізэрта і інш. Пачатак а 5 гадзіне. Вароньня вуліца, саля бышаго Палескаго Клюбу.

× **Прышчэпка воспы.** Жыхары Набэрэжнай, Мастовай, Лелевэлёўскай, Казловай, Газовай, Манэжнай, Вялікай, Імбарскай, Нямецкай і Троцкай запрашаюцца безаткладна стануць на прышчэпку воспы у шпіталь Якубскі, або у местовую бальніцу Вострабрамская 10.

× **Курс рубля:** офіцыяльны — 2 м. 00 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 29 ф., пры куплі—2 м. 32 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| за дзень з 11 на 12 | — 2,5° | —16° |
| „ з 12 на 13 | — 4° | —15,° |
| „ з 13 на 14 | — 0,3° | — 5,° |

## З усяго Краю.

### Голад на Беларусі.

ШТОКГОЛЬМ. Пецярбурскае тэлетрафнае агенцтво паведамляе, што у мінскім ваенным окрузі вялікі голад і што генерал-губэрнатар павінен прыймаць самые энэргічные способы супроць пачынаючых рабіць гвалты масс.

### А для беларусоў?

Украінскае бюро прэссы паведамляе, што папеж па прэсьбе графа Міхала Тышкевіча загадаў ва ўсіх каталіцкіх касьцёлах усяго сьвету, у адзін дзень зьбіраць грошы для украінцоў. Яв вядома ешчэ перш папеж загадаў збіраць грошы для палякоў і літвіноў.

„**Літва**“. Глаўнакамандуючы на ўсходзе паведамляе, што злучэные, быўшые упраўленьня Сувалкі—Вільня і Коўна, твораць на далей адно адміністратыўнае цэлае пад названьнем: „Ваеннае упраўленьне Літва“, с цэнтрам у Вільні.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

### Рэволюцыя у Расеі.

ШТОКГОЛЬМ. У Пецярбурзі за апошніе пяць дзён акуратны бунт. Салдаты не адзін раз адмаўляліся стрэляць у народ.

КОПЭНГАГА. С тутэйшых вестак чуваць, што у Пецярбурзі рэволюціонеры узарвалі жалезнадарожны мост праз Нэву на фінляндзкі вагзал.

ШТОКГОЛЬМ. У мінуўшы чэцьвер баставаўшые Пецярбурскіе работнікі зрабілі дэмонстрацію у цэнтры места с крыкамі: „проч цара“. Залпамі многа работнікоў было забіта. На другую раніцу уся сталіца была абхоплена пажарам паўстаньня. Пецярбург прыпамінае сабой ваенны фронт. Народ бярэ штурмам крамы і грамадзянскіе будынкі. Маніфэстантоў абстрэліваюць с кулямётаў.

КОПЭНГАГА. С прычыны магомэтанскіх бунтоў у Сярэдняй Азіі, округі Тургай і Кустанцы апавешчэны на ваенным палажэньні.

У надволжскіх губэрнях падпалены рэволюціонерамі чысьленые млыны з вялікімі запасамі збожжа.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Каля вайны.

БЭРЛІН У апошні час нямецкіе падводные лодкі затапілі 17 караблёў, 2 парусьнікі і 3 рыбалоўные лодкі, агульнай паемнасьцю у 40,158 тонн, апрыч таго затоплен адзін малы воражы крэйсэр.

БЭРЛІН. Нямецкіе паветравые сілы абкідалі бомбамі два расейскіе контр-мінаносцы у аколіцах Констанцы.

## Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

### З Вільні і Віленскай губэрні.

### Табор для ваенна-палонных Strelkowo. Stammabteilung.

Block II, Abteilung 5.

Відрук Вінцэнты, Краснае.  
Смільін Антон, Аколіца.  
Давідовіч Антон, Жукавізна.  
Руткоўскі Станіслаў, Макары.  
Каспэровіч Ромуальд, Вільня.  
Бучэль Пётр, Трокелі.  
Цыбульскі Пётр, Баяры.  
Ражноўскі Антон, Вэнэція.  
Маневіч Александар, Вільня.  
Юдэнкоў Ілья, Старыкарма.  
Кацкель Тодар, Стахоўцы.  
Чысьтякоў Сергей, Духоды.

Block II, Abteilung 6—8.

Адашкевіч Іван, Вільня.  
Гарноўскі Антон, Плекі.  
Андрушэвіч Пётр, Лосьнікі.  
Лемешэўскі Язэп, Вільня.  
Войткевіч Адам, Віцбікі.  
Субаткевіч Вінцэнты, Лавайкуні.  
Сэлюм Павал, Стэбэраны.

Block III, Abteilung 9.

Стэрц Пэйсах, Вільна.

(Далей будзе).

## АБВЕСТКІ.


**Навейшы ваенны пярсцёнак**




№ 2010 праўдзівае 800 серабро са штэмпэлям у нацыональных колерах, чорны, белы, чырвовы і з Жалезным Крыжам у праўдзівай эмаліі, самая тонкая рэльефная работа.

**Рэклямная цэна М. 1.90**

Так сама з надпісам „West-Front“.
Вартасць трэба пасылаць пачтовым пераводам у паперах, або маркамі.
Перасылка і запакоўка 25 фэнігоў. Салдатам толькі 10 фэнігоў. Накладная плата не пазволена. Вялічыню пярсцёнка даць паперкай.
Новы цэннік на 1917 год дарма.

**Sims & Mayer, Berlin SW 68**
nür Oranienstr. 117/118, Abt. 50.

**„Лаферма“-цігаркі**
„Окелла“ 3½ Лф.
„Білій жемчуг“ 3 Лф.
„Найлїпша любка“ 2½ Лф.
„No. 100“ 1½ Лф.



# Шостая ваенная пазыка

## 5% нямецкая Дзяржаўная пазыка

## 4½% запісі нямецкага Дзяржаўнага Скарбу лёсаваные па 110% да 120%

Для аплаты зробленых вайной выдаткоў выдаюцца ізноў 4½% запісі Імпэрскага Скарбу для публічнай падпіскі. Урад можэ выплаціць аблігаціі найраней 1-го кастрычніка 1924 году і дзеля гэтага ня можэ панізіць раней на іх працэнты. Калі урад схочэ пасля гэтага тэрміну панізіць працэнты, то ён павінен папярадзіць аб гэтым і запрапанаваць ўласнікам аблігацый выплату па номінальнай цане. Гэто самае мае моц і на ранейшые пазыкі. Уласнікі аблігацій і скарбовых запісей, могуць распараджацца імі, як кожнай іншай цэннай паперай (прадаваць, закладаць і т. д.).

Прэдпісаньне аб аблігаціях правамоцны і для запісоў у доўгавую кнігу.

## Варункі.

### 1. Мейсцы для падпіскі.

Мейсцам для падпіскі яўляецца Reichsbank. Падпіскі прыймаюцца

**ад чэцьвера 15 марца да панядзелку 16 красавіка 1917 году да 1 гадзіны па палудню**

у канторы глаўнага Дзяржаўнага Банку для цэнных папероў у Бэрліне (рахунак для пачтовых чэкоў. Бэрлін № 90) і ва ўсіх аддзелах Дзяржаўнага Банку, якіе маюць кассы. Падпіскі могуць быць зроблены такжэ праз пасрэдніцтво Königliche Seehaydlung (Прускі Дзяржаўны Банк), Preufsische Genosseuschaftskesse у Бэрліне, Königliche Hauptbank у Нюрэнбэргу і яе аддзелах, а такжэ ва ўсіх банках, у банкіроў і іх аддзелах, ва ўсіх публічных ашчадніцкіх кассах і іх сувязях, у кожным страхуючым жыцьцё таварыстве, у кожным пазычковым таварыстве і ў кожным почтамце; аб падпісках у почтах глядзі цыфру 7. Падпісные лісты можна дастаць ва ўсіх названых вышэй мейсцох, але падпісывацца можна таксама і пісьменна, не ужываючы падпісных лістоў.

### 2. Раздзел. Рост працэнтоу.

Доўгавые аблігаціі выдаюцца па 20,000, 10,000, 5 000, 2,000, 1,000, 500, 200 і 100 марак с працэнтнымі купонамі, якіе аплачываюцца 2-го студня і 1-го ліпня кожнаго году. Рост працэнтоў пачынаецца ад 1 ліпня 1917 году. Першы купон аплачываецца 2-го студня 1918 году.

Скарбовые запісі раздзеляюцца на группы і маюць цэннасць у 20,000, 10,000, 5,000, 2,000 і 1,000 марак, с такімжэ ростам працэнтоў і такіміж тэрмінамі аплаты іх, як і ў аблігаціях. Да якой группы належыць кожная скарбовая запісь, гэто відаць з яе тэксту.

### 3. Выплата скарбовых запісоу.

Скарбовые запісі лёсуюцца па группах, у студні і ліпні кожнаго году. Першы раз у студні 1918 году. І праз 6 месяцоў пасьля лёсаваньня выплачываюцца па 1.10 марак, за кожные 100 марак номінальнай цаны. Кожны раз лёсуецца гэтулькі групп, вартасць якіх раўняецца сумме каторая па плану павінна быць кожные 6 месяцоў выплачэна.

Не лёсаваные скарбовые аблігаціі урад да 1-го ліпня 1927 году ня можэ выкупіць; пачынаючы ад гэтаго тэрміну, урад мае право іх выкупіць, або са згоды ўласьнікоў замяніць 4½%, за каторые пры лёсаваньні урад будзе плаціць па 115 марак за кожные 100 марак номінальнай цаны. Не раней, як за 10 гадоў урад ізноў мае право выкупіць рэшту скарбовых запісоў, або даць ўласьнікам іх 3½% даўгавые запісі, за якіе пры лёсаваньні урад будзе плаціць па 120 марак номінальных. Выплата пад іншымі варункамі не дапускаецца. Аб выплаце урад павінен апавесьціць не пазьней 6-ці месяцоў да тэрміну і выплата павінна адбыцца зараз.

Дзеля аплаты % па Скарбовых запісах і лёсаваных запісоў ужываюцца штогод 5% номінальнай першапачатковай суммы. Заашчаджэные працэнты ад лёсаваных скарбовых запісоў ідуць такжэ на аплату іх.

Першаго ліпня 1967 году не вылёсаваные скарбовые запісі выкупляюцца па цане, якая адпаведае лёсаваным скарбовым запісам. (110%, 115% або 120%).

### 4. Падпісная цэна.

Падпісная цэна:

для 5% Імпэрскай пазыкі, калі аблігаціі выдаюцца на рукі . . . . . [illegible]—М.

за 5% Імпэрскую пазыку, калі облігаціі выдаюцца не раней 15 апрыля 1918 году, а пазыка запісываецца у дзяржаўную даўгавую кнігу . 97,80 М.

за 4½% запісі Дзяржаўнага Скарбу . 98,— М.

За кожные 100 марак номінальных з далічэньнем адпаведных працэнтных грошы.

### 5. Раздзяленьне пазыкі.

Пасьля акончэньня сроку падпіскі, адбываецца можліва скора паведамленьне падпісчыка, аб адводзе яму жаданай суммы пазыкі. Заплочэные ужо грошы у кожным разе залічаюцца на пазыку і назад не вертаюцца. Наагул-жэ мейсцо, дзе падпісаліся на пазыку, назначае сумму пазыкі. Асобные жаданьня а велічыне кожнай цэннай паперы, трэба заявіць пры падпісцы. Калі гэткіх жаданьнёў не зааўляецца, то велічыну кожнай цэннай паперы устанаўляе мейсцо падпіскі, паводле свайго пагляду. Пазьнейшые жаданьня аб велічыне цэнных папероў ня будуць браны пад увагу*).

Да ўсіх пазычковых скарбовых запісоў, а такжэ да облігацій Імпэрскай пазыкі, вартасьцю у 1 000 марак і болей, Дырэкція Імпэрскаго банку на жаданьне выдае часовые сьведоцтвы, аб замене якіх аканчацельнымі будзе у свой час публічна апавешчэно. Замест облігацій ніжэй 1.000 марак, часовых сьведоцтв не выдаецца, облігаціі будуць пасьпешна прыгатаваны і паўне выданы у верэсьні гэтаго году.

### 6. Аплаты.

Падпісчыкі могуць аплаціць падпісаные суммы поўнасьцю, пачынаючы ад 31 марца гэтаго году; рост працэнтоў за суммы, аплочэные ужо перад гэтым днём, пачынаецца такжэ толькі ад 31 марца.

Падпісчыкі павінны аплаціць:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 30% | падпісаной суммы | найпазьней | 27 красавіка | г.г. |
| 20% | „ | „ | 24 мая | „ |
| 25% | „ | „ | 21 чэрвеня | „ |
| 25% | „ | „ | 18 ліпня | „ |

Перадчасные аплаты пазваляюцца, але толькі у круглых сотнях номінальнай вартасьці. На малые падпіскі пазваляюцца аплаты па часьцях такжэ ва ўсякі час, але толькі у круглых сотнях номінальнай вартасьці. Расплата можэ адбывацца толькі тады, калі сумма дойдзе ня меней 100 марак.

**Плата павінна быць зложэна у тым мейсцы дзе зроблена падпіска.**

Знахадзячыеся у звароце безпрацэнтные сьведоцтвы Імпэрскаго Скарбу прыймаюцца на аплату с 5% вылікам, пачынаючы ад дня аплаты, але не раней як с 31 марца, да дня іх тэрміну.

### 7. Падпіска на почце.

На почце прыймаецца падпіска толькі на 5% Дзяржаўную пазыку, пры гэткай падпісцы поўная аплата можэ быць зроблена ужо 31 марца і павінна быць зроблена не пазьней 27 красавіка. За поўную аплату да 31 марца выдаюцца працэнты за 90 дзён, за ўсе іншые аплаты— да 27 красавіка—працэнты выдаюцца за 63 дні, нават тады, калі аплата зроблена перад 27 красавіком.

### 8. Замена.

Падпісчыкам новых 4½% скарбовых запісоў пазваляецца перэмяніць такжэ облігаціі і скарбовые запісі папярэдніх ваенных пазык на новые 4½% скарбовые запісі, але кожны падпісчык, можэ падаць на абмен ня болей, як у двая гэтулькі старой пазыкі (па номінальнай цане) чым ён падпісаўся на новые скарбовые запісі. Жаданьня аб перамені трэба заяўляць у часе падпісного тэрміну, у тым мейсцы, дзе хто падпісываўся на новые скарбовые запісі. Старые облігаціі трэба падаць у гэтым мейсцы не пазьней, як 24 мая 1917 году. Падаваючые аблігаціі на абмен дастаюць спачатку тымчасовые сьведоцтвы для новых скарбовых запісоў.

5% доўгавые аблігаціі ўсіх папярэдніх ваенных пазык будуць пераменены без даплаты на новые скарбовые запісі. Падаўцы 5% скарбовых аблігацій, першай ваеннай пазыкі, дастаюць аплату у 1,50 мар.; падаўцы 5% скарбовых аблігацій, другой ваеннай пазыкі, дастаюць аплату у 0,50 мар. за кожные 100 марак номінальнай цаны. Падаўцы 4½% скарбовых аблігацій 4-ай і 5-ай ваеннай пазыкі, павінны даплачываць па 3 маркі, за кажные 100 марак номінальнай цаны.

Аблігаціі маючые купоны на студзень і ліпень, падаюцца с купонамі, пачынаючы з 2-га студня 1918 году, а аблігаціі, маючые купоны за красавік і кастрычнік, падаюцца с купонамі пачынаючы ад 1 кастрычніка 1917 году. Замена правамоцна пачынаючы с першаго ліпня 1917 году, так што падаўцы аблігацій с купонамі за апрыль—кастрычнік атрымліваюць назад % са старой пазыкі за чверць году.

Калі хочуць замяніць свае вымогі па доўгавой кнізе, то трэба наперад вытрэбаваць з Упраўленьня Дзяржаўнаго доўгу (Berlin S.W. 68, Oranienstrasse 92/94) доўгавые аблігаціі. На прашэньні павінна быць адметка аб абмені, і прашэньне павінно быць прэд'яўлено ў Упраўленьне Дзяржаўнаго доўгу, не пазьней 20 красавіка гэтаго году, тады будуць выданы доўгавые аблігаціі без купонных аркушоў. За выдачу збору не бярэцца. Забарона выдаць аблігаціі на рукі ня чыніць неможлівай замену. Доўгавые запісі падаюцца не пазьней 24 мая 1917 году у мейсцы падпіскі, аб каторым гаварылося пад цыфрай 2-ай.

*) Аблігаціі усіх ваенных пазык на жаданьне падпісчыка заховываюцца і кіруюцца саўсім дарма канторай Глаўнаго Дзяржаўнаго Банку для цэнных папероў у Бэрліне да 1 кастрычніка 1919 году, згодна з яго варункамі аб дэпозытах; гэткі дэпозыт не мае ў сабе для ўласніка забароны распараджацца ім; падпісчык можэ свой дэпозыт узяць ва ўсякі час назад, нават перад канцом тэрміну пераховываньня. Выдадзеные канторай для цэнных папероў сьведоцтвы аб дэпозыце прыймаюцца ў залог пазычковымі кассамі таксама, як і цэнные паперы.

Бэрлін у марцы 1917 г.

Урад Дзяржаўнаго Банку

Havenstein. v. Grimm.

# SECHSTE KRIEGSANLEIHE.

## 5% Deutsche Reichsanleihe.

## 4½% Deutsche Reichsschatzanweisungen, auslosbar mit 110% bis 120%.

Zur Bestreitung der durch den Krieg erwachsenen Ausgaben werden weitere 5% Schuldverschreibungen des Reichs und 4½% Reichsschatzanweisungen hiermit zur öffentlichen Zeichnung aufgelegt.

Das Reich darf die Schuldverschreibungen frühestens zum 1. Oktober 1924 kündigen und kann daher auch ihren Zinsfuss vorher nicht herabsetzen. Sollte das Reich nach diesem Zeitpunkt eine Ermässigung des Zinsfusses beabsichtigen, so muss es die Schuldverschreibungen kündigen und den Inhabern die Rückzahlung zum vollen Nennwert anbieten. Das gleiche gilt auch hinsichtlich der früheren Anleihen. Die Inhaber können über die Schuldverschreibungen und Schatzanweisungen wie über jedes andere Wertpapier jederzeit (durch Verkauf, Verpfändung usw.) verfügen.

Die Bestimmungen über die Schuldverschreibungen finden auf die Schuldbuchforderungen entsprechende Anwendung.

## Bedingungen.

### 1. Annahmestellen.

Zeichnungsstelle ist die Reichsbank. Zeichnungen werden

**von Donnerstag, den 15. März, bis Montag, den 16. April 1917, mittags 1 Uhr**

bei dem Kontor der Reichshauptbank für Wertpapiere in Berlin (Postscheckkonto Berlin Nr. 99) und bei allen Zweiganstalten der Reichsbank mit Kasseneinrichtung entgegengenommen. Die Zeichnungen können auch durch Vermittlung der Königlichen Seehandlung (Preussischen Staatsbank), der Preussischen Central-Genossenschaftskasse in Berlin, der Königlichen Hauptbank in Nürnberg und ihrer Zweiganstalten, sowie sämtlicher Banken, Bankiers und ihrer Filialen, sämtlicher öffentlichen Sparkassen und ihrer Verbände, jeder Lebensversicherungsgesellschaft, jeder Kreditgenossenschaft und jeder Postanstalt erfolgen. Wegen der Postzeichnungen siehe Ziffer 7.

Zeichnungsscheine sind bei allen vorgenannten Stellen zu haben. Die Zeichnungen können aber auch ohne Verwendung von Zeichnungsscheinen brieflich erfolgen.

### 2. Einteilung. Zinsenlauf.

Die Schuldverschreibungen sind in Stücken zu 20000, 10000, 5000, 2000, 1000, 500, 200 und 100 Mark mit Zinsscheinen, zahlbar am 2. Januar und 1. Juli jedes Jahres, ausgefertigt. Der Zinsenlauf beginnt am 1. Juli 1917, der erste Zinsschein ist am 2. Januar 1918 fällig.

Die Schatzanweisungen sind in Gruppen eingeteilt und in Stücken zu 20000, 10000, 5000, 2000 und 1000 Mark mit dem gleichen Zinsenlauf und den gleichen Zinsterminen wie die Schuldverschreibungen ausgefertigt. Welcher Gruppe die einzelne Schatzanweisung angehört, ist aus ihrem Text ersichtlich.

### 3. Einlösung der Schatzanweisungen.

Die Schatzanweisungen werden zur Einlösung in Gruppen im Januar und Juli jedes Jahres, erstmals im Januar 1918, ausgelost und an dem auf die Auslosung folgenden 1. Juli oder 2. Januar mit 110 Mark für je 100 Mark Nennwert zurückgezahlt. Es werden jeweils so viele Gruppen ausgelost, als dies dem planmässig zu tilgenden Betrage von Schatzanweisungen entspricht.

Die nicht ausgelosten Schatzanweisungen sind seitens des Reichs bis zum 1. Juli 1927 unkündbar. Frühestens auf diesen Zeitpunkt ist das Reich berechtigt, sie zur Rückzahlung zum Nennwert zu kündigen, jedoch dürfen die Inhaber alsdann statt der Barrückzahlung 4% ige, bei der ferneren Auslosung mit 115 Mark für je 100 Mark Nennwert rückzahlbare, im übrigen den gleichen Tilgungsbedingungen unterliegende Schatzanweisungen fordern. Frühestens 10 Jahre nach der ersten Kündigung ist das Reich wieder berechtigt, die dann noch unverlosten Schatzanweisungen zur Rückzahlung zum Nennwert zu kündigen, jedoch dürfen alsdann die Inhaber statt der Barzahlung 3½% ige mit 120 Mark für je 100 Mark Nennwert rückzahlbare, im übrigen den gleichen Tilgungsbedingungen unterliegende Schatzanweisungen fordern. Eine weitere Kündigung ist nicht zulässig. Die Kündigungen müssen spätestens sechs Monate vor der Rückzahlung und dürfen nur auf einen Zinstermin erfolgen.

Für die Verzinsung der Schatzanweisungen und ihre Tilgung durch Auslosung werden jährlich 5% vom Nennwert ihres ursprünglichen Betrages aufgewendet. Die ersparten Zinsen von den ausgelosten Schatzanweisungen werden zur Einlösung mitverwendet. Die auf Grund der Kündigungen vom Reiche zum Nennwert zurückgezahlten Schatzanweisungen nehmen für Rechnung des Reichs weiterhin an der Verzinsung und Auslosung teil.

Am 1. Juli 1967 werden die bis dahin etwa nicht ausgelosten Schatzanweisungen mit dem alsdann für die Rückzahlung der ausgelosten Schatzanweisungen massgebenden Betrage (110%, 115% oder 120%) zurückgezahlt.

### 4. Zeichnungspreis.

Der Zeichnungspreis beträgt:

für die 5% Reichsanleihe, wenn Stücke verlangt werden . . . . . . . 98,— Mark,
für die 5% Reichsanleihe, wenn Eintragung in das Reichsschuldbuch mit Sperre bis zum 15. April 1918 beantragt wird 97,80 Mark,
für die 4½% Reichsschatzanweisungen . 98,— Mark,
für je 100 Mark Nennwert unter Verrechnung der üblichen Stückzinsen.

### 5. Zuteilung. Stückelung.

Die Zuteilung findet tunlichst bald nach dem Zeichnungsschluss statt. Die bis zur Zuteilung schon bezahlten Beträge gelten als voll zugeteilt. Im übrigen entscheidet die Zeichnungsstelle über die Höhe der Zuteilung. Besondere Wünsche wegen der Stückelung sind in dem dafür vorgesehenen Raum auf der Vorderseite des Zeichnungsscheines anzugeben. Werden derartige Wünsche nicht zum Ausdruck gebracht, so wird die Stückelung von den Vermittlungsstellen nach ihrem Ermessen vorgenommen. Späteren Anträgen auf Abänderung der Stückelung kann nicht stattgegeben werden*).

Zu allen Schatzanweisungen sowohl wie zu den Stükken der Reichsanleihe von 1000 Mark und mehr werden auf Antrag vom Reichsbank-Direktorium ausgestellte Zwischenscheine ausgegeben, über deren Umtausch in endgültige Stücke das Erforderliche später öffentlich bekanntgemacht wird. Die Stücke unter 1000 Mark, zu denen Zwischenscheine nicht vorgesehen sind, werden mit möglichster Beschleunigung fertiggestellt und voraussichtlich im September d. J. ausgegeben werden.

### 6. Einzahlungen.

Die Zeichner können die gezeichneten Beträge vom 31. März d. J. an voll bezahlen. Die Verzinsung etwa schon vor diesem Tage bezahlter Beträge erfolgt gleichfalls erst vom 31. März ab.

Die Zeichner sind verpflichtet:

30% des zugeteilten Betrages spätestens am 27. April d. J.,
20% „ „ „ „ „ 24. Mai „ „
25% „ „ „ „ „ 21. Juni „ „
25% „ „ „ „ „ 18. Juli „ „

zu bezahlen. Frühere Teilzahlungen sind zulässig, jedoch nur in runden durch 100 teilbaren Beträgen des Nennwerts. Auch auf die kleinen Zeichnungen sind Teilzahlungen jederzeit, indes nur in runden durch 100 teilbaren Beträgen des Nennwerts gestattet; doch braucht die Zahlung erst geleistet zu werden, wenn die Summe der fällig gewordenen Teilbeträge wenigstens 100 Mark ergibt.

Die Zahlung hat bei derselben Stelle zu erfolgen, bei der die Zeichnung angemeldet worden ist.

Die im Laufe befindlichen unverzinslichen Schatzscheine des Reiches werden — unter Abzug von 5% Diskont vom Zahlungstage, frühestens aber vom 31. März ab, bis zum Tage ihrer Fälligkeit — in Zahlung genommen.

### 7. Postzeichnungen.

Die Postanstalten nehmen nur Zeichnungen auf die 5% Reichsanleihe entgegen. Auf diese Zeichnungen kann die Vollzahlung am 31. März, sie muss aber spätestens am 27. April geleistet werden. Auf bis zum 31. März geleistete Vollzahlungen werden Zinsen für 90 Tage, auf alle anderen Vollzahlungen bis zum 27. April, auch wenn sie vor diesem Tage geleistet werden, Zinsen für 63 Tage vergütet.

### 8. Umtausch.

Den Zeichnern neuer 4½% Schatzanweisungen ist es gestattet, daneben Schuldverschreibungen und Schatzanweisungen der früheren Kriegsanleihen in neue 4½% Schatzanweisungen umzutauschen, jedoch kann jeder Zeichner höchstens doppelt so viel alte Anleihen (nach dem Nennwert) zum Umtausch anmelden, wie er neue Schatzanweisungen gezeichnet hat. Die Umtauschanträge sind innerhalb der Zeichnungsfrist bei derjenigen Zeichnungs- oder Vermittelungsstelle, bei der die Schatzanweisungen gezeichnet worden sind, zu stellen. Die alten Stücke sind bis zum 24. Mai 1917 bei der genannten Stelle einzureichen. Die Einreicher der Umtauschstücke erhalten zunächst Zwischenscheine zu den neuen Schatzanweisungen.

Die 5% Schuldverschreibungen aller vorangegangenen Kriegsanleihen werden ohne Aufgeld gegen die neuen Schatzanweisungen umgetauscht. Die Einlieferer von 5% Schatzanweisungen der ersten Kriegsanleihe erhalten eine Vergütung von 1,50 Mark, die Einlieferer von 5% Schatzanweisungen der zweiten Kriegsanleihe eine Vergütung von 0,50 Mark für je 100 Mark Nennwert. Die Einlieferer von 4½% Schatzanweisungen der vierten und fünften Kriegsanleihe haben 3 Mark für je 100 Mark Nennwert zuzuzahlen.

Die mit Januar/Juli-Zinsen ausgestatteten Stücke sind mit Zinsscheinen, die am 2. Januar 1918 fällig sind, die mit April/Oktober-Zinsen ausgestatteten Stükke mit Zinsscheinen, die am 1. Oktober 1917 fällig sind, einzureichen. Der Umtausch erfolgt mit Wirkung vom 1. Juli 1917, so dass die Einlieferer von April/Oktober-Stücken auf ihre alten Anleihen Stückzinsen für ¼ Jahr vergütet erhalten.

Sollen Schuldbuchforderungen zum Umtausch verwendet werden, so ist zuvor ein Antrag auf Ausreichung von Schuldverschreibungen an die Reichsschuldenverwaltung (Berlin SW 68, Oranienstrasse 92/94) zu richten. Der Antrag muss einen auf den Umtausch hinweisenden Vermerk enthalten und spätestens bis zum 20. April d. J. bei der Reichsschuldenverwaltung eingehen. Daraufhin werden Schuldverschreibungen, die nur für den Umtausch in Reichsschatzanweisungen geeignet sind, ohne Zinsscheinbogen ausgereicht. Für die Ausreichung werden Gebühren nicht erhoben. Eine Zeichnungssperre steht dem Umtausch nicht entgegen. Die Schuldverschreibungen sind bis zum 24. Mai 1917 bei den in Absatz 1 genannten Zeichnungs- oder Vermittlungsstellen einzureichen.

*) Die zugeteilten Stücke sämtlicher Kriegsanleihen werden auf Antrag der Zeichner von dem Kontor der Reichshauptbank für Wertpapiere in Berlin nach Massgabe seiner für die Niederlegung geltenden Bedingungen bis zum 1. Oktober 1919 vollständig kostenfrei aufbewahrt und verwaltet. Eine Sperre wird durch diese Niederlegung nicht bedingt; der Zeichner kann sein Depot jederzeit — auch vor Ablauf dieser Frist — zurücknehmen. Die von dem Kontor für Wertpapiere ausgefertigten Depotscheine werden von den Darlehnskassen wie die Wertpapiere selbst beliehen.

Berlin, im März 1917.

**Reichsbank-Direktorium.**
Havenstein v. Grimm.

**Друкавана у друкарні М. Кухты.** **Выдавецтво «Гоман».** **Рэдактар В. Ластоўскі.**